


Пакуль мамы працуюць... Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 20 (1188) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 18.V.1980 г.

**Янка Маўр**




(Заканчэнне)

— Бяры, Максімка, гэта табе прыслалі.

Тады пакрыўдзіўся Толя і плакучым голасам сказаў:

— А мне?.. Мне дык нічога...

Табе, братка, крыўдзіцца ніяк нельга, — сказаў бацька, зачыняючы чамадан. — У цябе ёсць усё і будзе ўсё, што толькі захочаш.

А Максімка нават не паварушыўся. Ён глядзеў некуды ўбок, а дзве кропелькі ўжо каціліся ўніз... Але ён маўчаў. Ён разумеў, што ні ад каго не можа патрабаваць, каб гэты дзядзька стаў яго таткам.

Тут яго падхапіла на рукі цётка Каця, пачала цалаваць, міла-ваць ды прыгаворваць:

— Паглядзі, Максімка, якую табе машыну прывезлі. Ніхто такой не мае. А кніжка якая?

Пры гэтым яна старалася стаць так, каб засланіць ад яго бацьку з сынам.

А бацька абы-як зачыніў чамадан, узяў за руку Толю і ціха пайшоў за дзверы з такім выглядам і адчуваннем, нібы зрабіў нешта нядобрае, нібы ён нечым вінаваты.

* * *

...Цёпла, светла, утульна ў кватэры. Толя мае ўласны кут, а ў ім усё, што хочаш, — і машыны, і кніжкі, і ўсялякія цацкі.

За сталом — бацька і маці.

— Я і да гэтага часу не магу прывыкнуць, што мы зноў сабраліся разам, — кажа маці. — Ты — недзе на фронце, я — у палявым шпіталі, а Толя з бабуляй і зусім невядома дзе.

— Навошта ўсё гэта ўспамінаць? — кажа бацька. — Скончылася шчаслівa для нас — і годзе.

— Так... для нас, — задумліва сказала маці. — А для іншых?.. Скажам, для таго Максімкі, пра якога ты расказваў...

Бацька зморшчыўся, нібы яму штосьці забалела, і сказаў:

— Зноў ты напомніла мне пра гэтага хлопчыка! Ён і так заўсёды стаіць у маіх вачах.

— Ды і я не забываю яго, хоць сама і не бачыла, — мякка ўсміхаючыся, сказала маці.

— Яму там зусім нядрэнна: і сыты, і дагледжаны, і жыве нібы ў сям'і.

На другі дзень, калі бацька і маці сядзелі на канапе, да іх падбег Толя, вясёлы, шчаслівы. Ён праціснуўся паміж каленяў бацькі, прытуліўся да яго, сказаў:

— А веласіпед сапраўдны мне купіш?

— Куплю, сынок, куплю. Толькі пакуль што няма дзе купіць, — адказаў бацька, а потым звярнуўся да жонкі: — Акурат таксама той хлопчык прытуліўся да мяне і прасіў машыну. Ён быў так упэўнены, што перад ім яго татка...

Маці сказала:

— Ведаеш, што я думаю: ці мае права наш Толя быць такім шчаслівым, калі столькі дзяцей засталося без бацькоў?

— Чаму ж не? — адказаў бацька. — Ён нічыё месца не займае. А вось мы займаем месцы забітых бацькоў, таму не маем права забываць пра іх дзяцей.

Так Максімка, сам таго не ведаючы, увайшоў у жыццё гэтай шчаслівай сям'і. Увайшоў і заняў пэўнае месца ў сэрцы не толькі

бацькі, але і маткі, якой часам здавалася, нібы яна сама прысутнічала пры той сустрэчы: надта ўжо выразна перадаў ёй муж усю сцэну. І пры кожным выпадку яны з замілаваннем успаміналі незнаёмага, далёкага хлопчыка Максімку.

...Была ўжо восень. Дрэвы вакол дзіцячага дома пажоўклі. Апусцелі пясчаныя распрацоўкі. Пранізлівы вецер без перашкоды гуляў па пералесках і ўзгорках. З зачыненага дома ішоў гул, як з устрывожанага вулля.

Малышы перанеслі свае будаўніцтва ў памяшканне. Замест пяску ў іх цяпер былі бярвенні, фермы, блокі, кубікі. Як і раней, яны чакалі, што заўтра ці ўчора прыедзе татка і прывязе нешта такое... такое...

— А мой татка прывязе мне сто кубікаў!

— А мой татка прывязе мне поўны дом кубікаў!...

Раптам падышла цётка Каця:

— Максімка, ідзі сюды! Да цябе татка прыехаў!

Нельга сказаць, каб Максімка вельмі здзівіўся: ён і без таго ведаў, што калі-небудзь ды татка прыедзе. Але ўсё ж такі ён захваляваўся і пачырванеў.

Цётка Каця ўзяла яго за руку і павяла. А ззаду самі ішлі Алёшка, Віцька, Сенька, Борка, і на іх ніхто не звяртаў увагі. Хутка Максімка ўбачыў высокага дзядзьку і адразу пазнаў, што гэта той самы татка, які прывёз яму машыну, але тады чамусьці не захацеў узяць яго з сабой. Затое цяпер ён сам падышоў да Максімкі, узяў яго на рукі і сказаў:

— Ну, Максімка, збірайся: едзем дадому, мама чакае.

І зноў Максімка ўбачыў той самы светлы, прыемны твар, зноў адчуў цеплыню на сэрцы і зноў шчыра прытуліўся да грудзей таткі.

Але адно вока яго глядзела на таварышаў хітра-хітра, ён не мог стрымаць сябе і сказаў ім:

— Ага!..

**С. Пушок**

## НЕЦЯРПЛІВАЯ СТЭПКА

*Малышка Стэпка*
*Рэпку пасадзіла,*
*На дыбачках*
*Каля яе хадзіла,*
*З зямлі выцягвала*
*Аж пяць разоў за дзень,*
*Каб, ці вялікай стала,*
*Паглядзець.*
*Заплакала,*
*Што шкадавала мала,*
*Калі раслінка*
*Кволая прапала.*
*З бабулькай сваёй*
*Дала бядзе ўсё ж рады:*
*Дала бабулька*
*Свежанькай расады.*



# НАШЫЯ ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

*Яны рассыпаны па ўсёй Беласточчыне, быццам тая раса на поплаве ў пагодны чэрвеньскі ранак. Куды ні глянеш — усюды ірдзяцца і зіхацяць у сонечных промнях гэтыя жывыя зоркі на зямлі. А спрабуеш іх згарнуць з муравы ў жменю — уцякуць з няволі, сплывуць паміж пальцамі срэбнымі крышталікамі і схаваюцца ў траве.*

*У згадцы: ішла панна ўначы, згубіла ключы, месяц бачыў, сонца падняло — раса параўноўваецца з дзівоснымі ключыкамі. Здаецца мне, што якраз легенды, паданні, сказы — гэта такія ж чарадзейныя ключыкі да таямніц мінулага тутэйшай зямелькі. Кранеш ключык, што называецца „легенда", і пачуеш пра тое, адкуль узяўся месяц ці багно, як злодзей ператварыўся ў мядзведзя, а цікаўны ў бусла, чаму не стала на свеце магутных асілкаў і што схавана пад пагоркам старога гарадзішча. Возьмеш ключык з назвай „паданне" і адразу даведаешся, што некалі здарылася якому-небудзь чалавеку, што адбылося ў вёсцы ці мястэчку або ва ўрочышчы, і праўда тут пераплятался з выдумкай. Пакладзеш на далонь ключык, які завуць „сказ", і заслухаешся пра нядаўнія часы, якія яшчэ не паспелі абрасці выдумкай.*

*І як кожная расінка мае свой адметны бляск і колер, а ўсе разам іграюць пералівістым ззяннем, так і паасобныя легенды, паданні і сказы — гэта займальныя гісторыі, а разам — каштоўнейшая спадчына нашых прадзедаў, дзядоў і бацькоў, сведчанне іх улюбёнасці ў родны край.*

# ГАЛАВОЙ НАЛОЖЫШ

Калі тое было? А хто ж яго згадае! Мо яшчэ ў тыя незапамятныя часы, калі рака Сакалда тут плыла тым пакручастым старым рэчышчам, што цяпер Зэглерыхай завуць?

Каля лясной рачулкі Ланкі, усё ў адным месцы, кожны год позняй восенню што ні вечар агонь нейкі людзям явіўся. Выкаціцца недзе з гушчавіны на палянку пад старыя дубы і круціцца. То падбяжыць, то падскочыць і аж зіхаціць рознымі колерамі.

Старыя людзі, угледзеўшы гэтае дзіва, меркавалі:

— Няйнакш, у закапаным скарбе золата пераліваецца. Багата яго, пэўна, там, калі агонь такі вялікі ды іскрысты. — Падумаўшы, перасцерагалі маладых: — Няпраўдай гэты скарб закладзены і таму смерці патрабуе.

Доўгі час яўляўся той агонь, але ніхто з тутэйшых не наважыўся шукаць ды адкопваць той скарб.

Аднойчы валэндаўся тут з вёскі да вёскі нейкі чужынец з сабакам. Не столькі людзі валацугам дзівааліся, колькі тым саба-

кам. Надта ж ён верны быў свайму гаспадару: даволі крывым вокам на валацугу глянуць, як сабака з зубамі на цябе кідаўся; з найгоршай лясной крэкаці яго выводзіў, нікога да яго не падпускаў, калі той, бывала, п'яны пад плотам валяўся. Пачуўшы згадку пра скарб, пайшоў прыблуда вечарам на Ланку, падпільнаваў агеньчык і да вялікага скарбу дакапаўся.

Адкрывае прыблуда гаршчок, а там паверх золата запіска ляжыць: „Мяне ўзяўшы, галавой наложыш". Ён, доўга не думаючы, злапаў свайго сабаку, адрубаў яму галаву ды паклаў у гаршчок на месца золата, што сабе ў торбу высыпаў. Сам жа, ног пад сабой не чуючы ад радасці, паімчаўся ў карчму, што тады за рэчкаю, на скраю вёскі Сакалды стаяла. Бег жа не дарогаю, а нацянькі каля Здраёў на Зэглерыху, не зважаючы на багну ды дрыгву. Відаць, яму надта спешна да кварты гарэлкі было. Не заўважыў нават, як у адкрытае жорала ўваліўся. Рвануўся ў адзін бок, рвануўся ў другі, а золата ўсё глыбей у твань цягне. Спрабаваў скінуць торбу са скарбам, але багна ўжо па шыю засмактала. Закрычаў ён дзікім голасам: „Ратуйце!" ды замест крыку толькі бурбалкі з жыжы выскачылі і шапка-малахай усплыла.

Толькі праз нейкі час наткнуліся людзі на косці яго зарубанага сабакі і картку пад дубам на Ланцы ды згніўшую шапку на жаралах каля Здраёў.

Потым дрыгву асушылі, зааралі ды засеялі травою. Цяпер улетку ды навосень стракацяць там касілкі, а агонь зусім не паказваецца.

**Мікалай Гайдук**

**Х. Ляшкевіч**

## ЯК РЫГОРКА ПАДРОС

*Дождж насунуўся здаля,*
*Маладзы і цёплы,*
*І наўкола спакваля*
*Зазвінелі кроплі.*

*Крыкнуў дзеду ўнук Рыгор:*
*— Вось, дзядуля, ўдача!*
*Пабягу хутчэй на двор,*
*Падрасту, няйначай...*

*Добра хвошча дождж касы,*
*Быццам цёплым душам,*
*Мые хлопцу валасы,*
*Мые твар і вушы.*

*Дождж прыціх і парадзеў.*
*Раптам —*
*Гэта ж трэба! —*
*Буйным градам неўспадзеў*
*Сыпанула з неба.*

*І пакуль дамоў назад*
*Бег Рыгорка спехам,*
*Біў па хлопцу спорны град,*
*Моцны, як арэхі.*

*Дзед ад смеху носам трос,*
*Рагатаў праз вусы:*
*— Ох, унучак, ты падрос,*
*Гузакі не схлусяць!*




ПАГЛЫБЛЯЙ

СВАЕ ВЕДЫ


## ТАЯМНІЦА ШПАКОЎНІ

У галачніках жывуць галкі, у сінічніках — сініцы. А ў шпакоўнях павінны быць шпакі. Усё ясна і проста. Але ў лесе рэдка бывае проста...

Ведаў я адну шпакоўню, у якой жыла... сасновая шышка! Яна высоўвалася з лятка і варушылася!

Памятаю, калі я падышоў да шпакоўні, шышка ў лятку раптам зашарпалася і... схавалася!

Я хутка схаваўся за дрэва і пачаў чакаць. Дарэмна!

Лясныя таямніцы так проста не разгадваюцца. Лясныя таямніцы хаваюцца ў дажджах і туманах, зашываюцца ў буралом і балоты. Кожная за сямю замкамі. I першы замок — гэта камары, яны выпрабоўваюць цярплівасць.

Але якая ж можа быць цярплівасць, калі шышка ў шпакоўні варушыцца, як жывая!

Я ўзлез на дрэва, сарваў са шпакоўні дашак. Пад самы ляток шпакоўня была набіта сасновымі шышкамі. I больш нічога ў ёй не было. I не было жывой шышкі. Усе ляжалі нерухома.

Так і павінна быць: вельмі ж хутка захацеў пазнаць таямніцу. Пап'юць яшчэ камары тваёй кровушкі!

Я выкінуў са шпакоўні ўсе шышкі і злез з дрэва.

Праз шмат дзён, калі ночы сталі халодныя і зніклі камары, я зноў прыйшоў да лясной шпакоўні. На гэты раз у шпакоўні пасяліўся бярозавы ліст!

Я доўга стаяў і глядзеў. Лісточак насцярожыўся, выглянуў з лятка і... схаваўся!

Лес шаптаў: ападалі апошнія пабітыя марозам лісткі. Яны то мільгалі ў паветры, як івалгі — залатыя птушкі, то спаўзалі, шапочучы, па ствалах, як рыжыя вавёркі. Вось абсыплецца лес, прыб'юць асеннія дажджы траву, зацярушыць зямлю снег. I застанецца таямніца неразгаданай.

Я зноў палез на дрэва, не буду ж чакаць да наступнага лета! Зняў дашак — шпакоўня да лятка набіта сухім бярозавым лісцем. I больш нічога. I жывога лістка няма!

Паскрыпвае бяроза. Шуміць сухое лісце. Хутка зіма...

Я вурнуўся на другі ж дзень.

— Пабачым! — прыгразіў я нябачнай істоце са шпакоўні. — Хто каго ператрывае!

Сеў на мох, абаперся спіной да дрэва. Пачаў глядзець.

Лісце круціцца, пераварочваецца, узлятае, кладзецца на боты, на плечы, на галаву.



Сядзеў я, сядзеў, і раптам знік! Так бывае: ты ідзеш — цябе ўсе бачаць, а стаў, зачаіўся — і знік. Цяпер іншыя пойдуць — і ты іх убачыш.

...Дзяцел прычапіўся да лятка шпакоўні ды як застукае! А з таямнічага жылля жывой шышкі і жывога лістка, выскачылі і паляцелі... мышы! І не лятучыя, а самыя звычайныя, лясныя, жоўтагорлыя. Ляцелі як на парашутах, растапырыўшы лапкі. Паспадалі на зямлю, ад страху вочы на лоб.

Была ў шпакоўні іх кладоўка і спальня. Гэта яны паварочвалі, на маё здзіўленне, шышкі і лісткі ў лятку. І паспявалі ўцячы ад мяне незаўважна. А дзяцел зваліўся ім проста на галовы, хутка і неспадзявана — добры ключ да лясных таямніц.

Так шпакоўня замянілася ў... мышатнік.

А ў што, цікава, могуць замяніцца сінічнік ці галачнік? Што ж, паходзім — даведаемся...

**М. Сладкоў**

## Пазнаёмімся

Добры дзень, дарагая „Зорка“! Піша табе дзяўчынка з вёскі Мілявічы, што на Гродзеншчыне. Вучуся я ў сёмым класе і вельмі хачу перапісвацца з хлопчыкамі і дзяўчынкамі з сёмага класа. Дарагая рэдакцыя, калі ласка, дапамажы мне ў гэтым, я буду вельмі ўдзячна вам за гэта. Мой адрас: БССР 231615, Гродзенская вобл., Мастоўскі раён, вёска Мілявічы, Тарасевіч Валянціне.

* ✲ *

Крыся Аўрук, вучаніца сёмага класа, в. Шымкі 10, пошта 16-051 Шымкі, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Бася Гайдукевіч, вучаніца сёмага класа, Навасады 35, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Багуслава Боўтрык, вучаніца сёмага класа, Шымкі 24, пошта 16-051 Шымкі, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 87, кв. кв. 23. Галя Хіліманюк, 13 гадоў.

* ✲ *

Ліля Лешчук, вучаніца сёмага класа, кал. Шымкі 132, пошта 16-051 Шымкі, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Іра Гансоўская, вучаніца сёмага класа, в. Юшкаў Груд 10, пошта 16-053 Юшкаў Груд, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Марэк Кардаш, вучань сёмага класа, Навасады 39, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Tanja Cieślik, DDR 1330 Schwedt/ /O. Thomas-Mann — Str. 9. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

СССР, г. Мурманск-34, ул. Хлобыстова, дом 32, кв. 181. Мякшиковой Оле. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

Галіна Грыгарук, вучаніца пятага класа, в. Махнатае, пошта 17-206, Старакорнін, Беластоцкае ваяводства.




— Тата, тата, наш кот заснуў і забыўся маторчык выключыць! Увесь час вурчыць!

* ✲ *

— Афіцыянт, скажыце калі ласка, што ў вас можна з'есці?
— Нічога няма.
— Дык прынясіце піва.
— Піва падаем толькі да яды.

* ✲ *

— О, дарагі сябар, я не бачыў цябе тысячу год! — радуецца дзядзька Мікіта, убачыўшы сябра. — Што ты рабіў увесь гэты час?
— А якое стагоддзе цябе цікавіла б?

* ✲ *

— Добры дзень, суседзе! Як вам было ў горах?
— І не пытайце, міленькі. Увесь час ліў дождж!
— Але ў вас так прыгожа загарэў твар...
— Не, гэта іржаўчына...

* ✲ *

Міхаська ўручае сваёй маме вялікі букет кветак на яе дзень нараджэння. Маці цешыцца:
— Якія цудоўныя кветкі! Напэўна, вельмі дарагія. Тата табе грошы даў?
— Не, гэта кветкі ад агародніка.
— А што агароднік казаў?
— Нічога. Толькі бег за мною два кіламетры.

* ✲ *

— Слухай, Міцька, ты казаў Пятру, што ён асёл. Гэта праўда?
— Гэта праўда, але я таго не казаў.

Леапольд Танкевіч
**ВЕСНАВЫЯ ЗАГАДКІ**

Пад кусточкамі на ўзлеску
Цвітуць сінія . . . . . . . .

Там аблёт свой пачала
Працавітая . . . . .

А над полем ля ракі
Пяюць звонка . . . . . . . .

Сок салодкі на губах —
У белых коціках . . . . .

Ля шпакоўні спевакі —
Жаўтадзюбыя . . . . .

Між узгоркамі шпарчэй
Веснавы журчыць . . . . .

Зелянее ўсё кругом —
Адазваўся першы . . . .

**АДГАДАНКА**



**Спалучы лікі ад 1 да 64 і паглядзі, што ў цябе атрымалася.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**